



# рэгіянальная газета

25 кастрычніка 2013 года
№ 43 (965)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




Столькі выпілі, што не чулі плач сваіх дзяцей.

4-я старонка



У кастрычніку мастацкі кіраўнік Мінскага абласнога драмтэатра святкуе 55-годдзе ў тэатральным жыцці.

20-21 старонкі



## навіны рэгіёна

### Ад 1 лістапада павышаюцца пенсіі на 5,1%

У Беларусі ад 1 лістапада павышаюцца пенсіі. Адпаведны ўказ Аляксандр Лукашэнка падпісаў 21 кастрычніка. Сёлета ад 1 лістапада будзе праведзеная карэкціроўка фактычнага заробку пенсіянераў і пераразлік працоўных пенсій. У выніку працоўныя пенсіі грамадзян павялічацца ў сярэднім на 5,1%.

**Паводле БелТА.**

### Змяненні ў раскладзе руху рэгіянальных цягнікоў

**Ад 27 кастрычніка** электрычка Мінск-Маладзечна прыбыццём ў Маладзечна ў 22.45 будзе прыбываць у 22.36, адпраўленнем з Мінска ў 22.03 будзе адпраўляцца ў 21.50 і прыбываць у Маладзечна ў 23.29

**Ад 28 кастрычніка** Маладзечна-Мінск адпраўленнем з Маладзечна ў 05.09 будзе адпраўляцца ў 05.16, адпраўленнем з Маладзечна ў 06.26 будзе адпраўляцца ў 06.25 і прыбываць у Мінск у 08.15

Адпраўленнем з Маладзечна ў 09.47 будзе адпраўляцца ў 09.51 і прыбываць у Мінск у 11.45

**Ад 28 кастрычніка Глыбокае-Маладзечна** адпраўленнем з Крулеўшчыны ў 04.46 будзе адпраўляцца ў 04.53 і прыбываць у Маладзечна ў 07.05

Для забеспячэння вывазу пасажыраў прызначаецца цягнік ад 01.11.2013 па пятніцах да адмены: №693 Мінск-Полацк адпраўленне з Мінска ў 17.10, прыбыццё ў Маладзечна 18.16

Адпраўленнем **з Маладзечна** ў 18.45 прыбывае ў Полацк у 22.44

**Ад 27 кастрычніка** ў сувязі са зніжэннем пасажырапатоку **адмяняюцца** цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа **Маладзечна-Параф'янаў-Маладзечна, якія курсіравалі па суботах і нядзелях.**

**Мінскае аддзяленне беларускай чыгункі. Станцыя Маладзечна.**

УНП 600199541.



# Паляўнічы застрэліў жонку і застрэліўся сам



Фота liveinternet.ru

Трагедыя адбылася ў сям'і паляўнічага.

**ВАЛОЖЫН. Трагедыя адбылася ў суботу, 19 кастрычніка, у вёсцы Вайганы каля 17.30.**

У той дзень нічога не прадракала бяды. Жанчына, як звычайна, займалася хатнімі справамі. Убачыўшы побач з домам суседзяў, папрыяцельску пагутарыла пра тое ды пра сёе.

Аб тым, што штосьці не ў парадку, ні слова не сказала. Ды і выгляд у яе быў звычайны, не была яна чымсьці ўзрушаная ці кімсьці пакрыўджаная. І пра мужа свайго не гаварыла...

Яго ў той дзень ніхто з суседзяў не бачыў. Ён быў паляўнічы. Таму і стрэльба дома ляжала.

Суседзям загінулых мужа і жонкі на сваё вочы давялося пабачыць жудасны выпадак, які адбыўся літаральна праз гадзіну пасля таго, як гаспадыня дома насупраць з імі размаўляла.

У той час суседзі якраз былі ў двары: 14-гадовая дзяўчынка, яе бацькі, бабуля. Маці фарбавала плот, бацька працаваў на ўчастку.

Раптам яны пачулі стрэлы. Спачатку адзін, а потым другі.

У гэты час дзяўчынка з бабуляй зайшлі за адну з пабудоў на ўчастку і не бачылі таго, што адбылося.

Жанчына з мужчынам павярнуліся ў бок, адкуль чуліся стрэлы, і ўбачылі сваю суседку. Яна пераходзіла праз дарогу, кульгала, але ішла якраз да іх. Ззаду на ўчастку стаяў яе муж і трымаў у руках стрэльбу. Пастаяўшы крыху, ён знік у доме.

Тым часам яго жонка дайшла да машыны, што стаяла побач з домам. Але дайшоўшы, упала.

Яе сусед нават падумаў, што, можа, яна ад іх чагосьці хаваецца. Аднак калі падышоў, то ўбачыў, што яна ў крыві, а з рота ідзе пена. Зразумеўшы, што жанчына памірае, суседзі пачалі клікаць на дапамогу. Выклікалі "хуткую", міліцыю. Аднак выратаваць яе ўжо было немагчыма.

Забіўшы жонку, мужчына застрэліўся і сам. Яго цела знайшлі ў доме.

Трагічна загінулая сям'я працавала ў цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. У вольны ад працы час яны вялі гаспадарку. Жанчына была вельмі працавітая. Суседзі адзначаюць, што рэдка бачылі, каб яна не была занятая якой-небудзь работай. Раз-пораз перакінецца двума словамі – і зноў працаваць.

Муж часам хадзіў на паляванне. Разам яны пражылі амаль 30 гадоў.

Іх 28-гадовая дачка жыве ў Мінску. Там у яе свая сям'я.

Быў і сын. Аднак яшчэ ў падлеткавым узросце ён скончыў жыццё самагубствам – павесіўся.

Пра выпадак распавяла "РГ" старшы следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая.**

**Настасся РОЎДА.**

ПОСТАЦІ

# Эдуард Мацюшонак пра асобу і творчасць Язэпа Драздовіча


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Праца "Космас Драздовіча".

**ВІЛЕЙКА. Нядаўна адзначалася 125-я гадавіна з дня нараджэння мастака, скульптара, пісьменніка, археолага і педагога Язэпа Драздовіча.**

Пра гэту асобу гутарым з вілейскім мастаком **Эдуардам Мацюшонкам**, які паспрабаваў асэнсаваць жыццё і творчасць Драздовіча праз свае жывапісныя творы. Эдуард Мацюшонак разважае пра зямное і касмічнае, пра гісторыю і сучаснасць, пра таямніцы прыроды роднай бацькаўшчыны, якія цесна злучыліся ў творчасці гэтага мастака.

### "Я іду да людзей, каб несці ім мастацтва"

– Язэп Драздовіч для мяне з'яўляецца аўтарытэтам у разуменні таго, як трэба любіць тую зямлю, на якой ты нарадзіўся.

Дзённік "Паміж Мнютай і Аутай" дапамагае зразумець усе акалічнасці жыцця мастака. Пра гэту зямлю (дзісненскі край), дзе ён многа хадзіў перад самай вайной і пасля яе, пісаў насценныя дыванкі, маляваў краявіды, пісаў фантастычныя аповесці… Ён і казаў: "Я іду да людзей, каб несці ім мастацтва". У Драздовіча была магчымасць паехаць на заробкі за мяжу, але ён выбірае служэнне мастацтву і людзям на радзіме. Ён казаў: "Мне трэба аддаць доўг той зямлі, якая мне дала пуцёўку ў жыццё".

Па ўспамінах людзей, якія былі знаёмыя з ім (і мой тата пра гэта казаў), Драздовіч заўсёды быў апрануты чыста і акуратна, нягледзячы на любыя жыццёвыя абставіны. Усе яго рэчы выглядалі стыльна і адначасова сціпла, падкрэсліваючы мастацкі густ гэтага незвычайнага чалавека.

І ў размове ён не апускаўся да слоў і тэм, якія былі ніжэйшыя за яго духоўны ўзровень. Мастак заўсёды стараўся гаварыць толькі пра высокае, толькі добрае пра тых людзей, якіх ён ведаў. Вось таму ён і пісаў свае краявіды на Месяцы, на Сатурне, на Плутоне так, як быццам там створанае ідэальнае грамадства, ідэальныя гарады, дзе няма войнаў і дзе розум ідзе не супраць чалавека, а для яго.

### "Прыйдзе час – і вы мяне яшчэ пашукаеце"

Успамінаю расповеды маёй мамы, а таксама цёці Гелены, у якой ён некалькі тыдняў жыў і маляваў дываны. "Ён пачынае распавядаць пра гісторыю краю, пра іншыя планеты і жыццё на іх, і ўсе дзеці і дарослыя з іншых хат збіраліся, каб яго паслухаць.

Ён малюе дываны і распавядае, як там людзі жывуць на Месяцы, на планетах, а мы потым вечарам выбягаем, глядзім на далёкія-далёкія планеты і сапраўды бачым там тыя гарады". На жаль, многія дываны, як і іншыя творы, зробленыя ім у той час, успрымаліся як рэчы побыту і для мясцовых жыхароў не ўяўлялі мастацкай каштоўнасці. З часам яны былі страчаныя або замененыя вырабамі шырокага спажывання.

Чалавек усё сваё жыццё паклаў, каб на гэтай зямлі жыла навука, культура, каханне. Ён, як быццам тая свечка, якая гарэла і гарэла для таго, каб гэта ўсё захаваць.

Ён казаў: "Прыйдзе час – і вы мяне яшчэ пашукаеце". І на самой справе, зараз час прыйшоў, і мы вельмі часта шукаем такіх асоб, якія змаглі стаць тым падмуркам, на якім можна было б будаваць духоўнае адраджэнне. Вось гэткая асоба Язэпа Драздовіча. Ён жыў, не маючы ні сям'і, нічога таго, што мы называем матэрыяльнымі здабыткамі. Ён, маючы зямлю, на якой нарадзіўся, рабіў усё для таго, каб на гэтай зямлі было прыгожа і добра".

### Што б ён ні рабіў – гэта заўсёды цікава

Язэп Драздовіч для мяне цікавы як асоба. Гэта вельмі цэльны чалавек. Язэп Драздовіч калі не ствараў жывапісныя творы, то нешта выразаў з дрэва, часта ён проста ішоў да людзей, слухаў іх жыццёвыя расповеды, запісваў народныя песні, рабіў замалёўкі.

Ён заўсёды быў у творчым пошуку, таму што яму было што сказаць. Яго ўнутраны свет такі вялікі і гарачы – як полымя. Што б ён ні рабіў – гэта заўсёды цікава.

### "Гэта той чалавек, які першы мне сказаў, што я беларус"

Мой стрыечны брат зняў фільм пра Драздовіча 15 год таму. Фільм складаецца з расповедаў тых людзей, якія выдатна памяталі Драздовіча, якія вучыліся ў яго: падчас вайны ён выкладаў у школе ў Лужках, бо настаўніка ў не было.

Адзін з яго вучняў успамінаў: "Гэта той чалавек, які першы мне сказаў, што я беларус, што мая зямля – выдатная і цудоўная, што я павінен ведаць яе гісторыю і ганарыцца ёй".

### Моманты з жыцця Драздовіча, што ўразілі найбольш

Вельмі ўражвала, як ён самааддана працаваў для самадзейнага тэатра Таварыства беларускай школы ў Беластоку, ствараючы дэкарацыі. Драздовіч разумеў, што за працу, хутчэй за ўсё, ён нічога не атрымае, давала аб сабе знаць цяжкае становішча беларускамоўных школ у 30-я гады.

Але гэта было вельмі патрэбна тым людзям, якія абавязкова прыйдуць у тэатр, каб пазнаёміцца з беларускім мастацтвам. Яны павінны чуць беларускае слова і адчуваць асалоду ад беларускіх краявідаў, намаляваных ім на тэатральных дэкарацыях.

Другое, што мяне вельмі ўразіла – гэта яго адзінота. Па жыцці ён ішоў адзін, без сям'і, без жытла, застаўся адзін і ў апошнія хвіліны на гэтай зямлі. Можа, гэта і праўда, калі чалавек жыве вось так, аддаючы ўсяго сябе людзям, ён не павінен чакаць, што яму цяпер будуць усе ўдзячныя. Тое, што ён робіць цяпер, становіцца зразумелым праз гады...

Мне здаецца, Драздовіч быццам прасіў, заклікаў: "Вось ёсць зямля. Давайце будзем яе любіць і шанаваць, паважаць яе гісторыю і культуру, давайце будзем сапраўднымі беларусамі". А гэта было тады не ўсім зразумела. Уяўляю: вайна, рэвалюцыя, хутка мяняюцца ідэалы... І пачуць гэтыя заклікі і адгукнуцца на іх тады было вельмі цяжка"

### Драздовіч і наш рэгіён

"Лічу, што з Засвірам у яго звязана вельмі многае. Таму што **Казімір Сваяк** (які служыў у Засвірскім касцёле) і Драздовіч былі сябрамі – яны аднолькавыя на духоўным успрыманні мастацтва. Упэўнены, што вечарамі яны размаўлялі на тэмы вельмі блізкія для абодвух: іх цікавіў лёс Бацькаўшчыны.

Думаю, калі ён працаваў у Радашкавічах, у гімназіі Францыска Скарыны, то ён мог праязджаць праз Вілейку, Маладзечна. Прыгажосць гэтых мясцін адлюстроўвалася ў яго творчасці. Магчыма, наведваючы Мядзел, ён быў зачараваны прыгажосцю касцёла і незвычайнасцю Мядзельскай Кальварыі.

### Партрэты, прысвечаныя асобе Язэпа Драздовіча

На першым партрэце "Драздовіч. Вяртанне" паказаў яго на фоне насценнага дыванка, якія ён любіў маляваць. А на дыванку тыя мясціны, адкуль я родам: Задарожскі касцёл, Мнюцкае возера, курганы. Ён там часта бываў, рабіў навуковыя даследаванні і маляваў.

Пасля вывучэння творчасці Драздовіча ў мяне ўзнікла адчуванне, што гэта асоба намнога глыбейшая, чым я ўяўляў раней. Ён трывала стаіць на зямлі сваіх продкаў, нясе любоў да роднага краю іншым людзям з адкрытым сэрцам, а сваімі пачуццямі, розумам і духоўнасцю высока ўзлятае ў нябёсы, як быццам злучае нешта касмічнае з гэтай зямлёй.

Праз нейкі час з'явілася адчуванне, што павінен стварыць яшчэ адну працу. Так нарадзілася ідэя "Космаса Драздовіча".

Калі пачаў пісаць, то зразумеў, што нават сама тэхніка жывапісу павінна быць тонкая – амаль што акварэльная, хоць карціна будзе напісаная алейнай фарбай. Атрымліваецца, што само палатно прасвечваецца праз фарбу, і бачна што аснова даматканая, а па ёй ідуць колеры фарбаў. Як быццам адчуваеш, што свеціць Месяц і асвятляе гэту зямлю. Праца, такім чынам, атрымлівае філасофскі падтэкст.

Па кампазіцыйнай пабудове яна складаецца як быццам з асобных пластоў. На самым высокім узроўні – рэшткі замкаў, маёнткаў, крэпасцяў, якія ён вывучаў і апісваў, яны быццам выхапелены святлом Месяца. Ніжэй – Вільня. Катэдра, манастыры, якія ён добра ведаў, у якіх бываў, многа маляваў.

Яшчэ ніжэй – рачулка і невялікая драўляная царкаўка ў тумане. Ён казаў, што яму падабаюцца невялікія касцёлы і цэрквы ў Беларусі, таму што іх будавалі не вялікія майстры архітэктуры, якія былі запрошаныя з Італіі, Францыі, а мясцовыя людзі. І яны мелі тыя архітэктурныя рысы, якія былі больш звязаныя з гэтай мясцовасцю. Далей можна ўбачыць выяву хаты, адчыненае акенца, у якім гарыць святло. Магчыма, яго там нехта чакае.

І ўсе гэтыя выявы прыгожа асвячае святло Месяца. Усе гэтыя рэльефныя лініі, краявіды зямнога быццам бы пераходзяць на краявіды Месяца. І там яны пераліваюцца і ператвараюцца ў выявы Трывежа – яго горада, ягоных акадэмій, штучных мораў…

Намаляваная карціна шэра-зеленаватымі колерамі, якія ён вельмі любіў. Казаў, гэта вельмі беларускі колер, крыху затуманены, нейкі задумены.

На карціне Драздовіч як быццам і матэрыяльны, і нейкі духоўны, лёгкі. Ён праходзіць побач з намі, яшчэ хвілінка – і ён з гэтага пейзажа сыдзе.

Зараз гляджу на яго, і такое ўражанне, што ён для мяне зрабіў падарунак: як быццам дазволіў мне ўвайсці ў ягоны космас. Гэта дапамагае зразумець яго і тую краіну, дзе жыву.

### Рама з дрэва, што помніць мастака

Як праца яшчэ пісалася, пачаў думаць, якой павінна быць рама. Вельмі добра, што з'явілася магчымасць зрабіць раму да карціны з дрэва таго часу, калі жыў Драздовіч, хадзіў па гэтых хатах, і якраз з тых мясцін – адчуванне, што яно памятае яго. Дзе знайсці такое дрэва, падказаў тата.

На раме прыгожыя зеленаватыя гадавыя кольцы – як яго "нябесныя бегі". У раме замацаваны медны дрот – як быццам бы жывая жыла ідзе, быццам пульсуючы нерв. Такім чынам, ты адчуваеш, што гэта праца і рама – адно цэлае.

### Мара пра музей

Лічу, што на Глыбоччыне павінен з'явіцца вельмі ўтульны і прыгожы музей імя Язэпа Драздовіча, дзе павінна быць сабрана як мага больш яго рэчаў. І трэба, каб там праводзіліся заняткі па беларускай мове і літаратуры, гісторыі і мастацтву. І калі яшчэ настаўнік будзе выкладаць усё з любоўю, то мы будзем адчуваць, што Язэп Драздовіч – выдатны мастак і асоба. Ён з той зямлі, на якой мы жывём.

Нават уяўляю, як на сценах музея з'яўляюцца роспісы беларускіх краявідаў, а на стале – фантастычныя малюнкі з "Нябеснымі бегамі" Драздовіча. Павінна ўсё быць так, як быццам у музеі матэрыялізуецца свет гэтага чалавека. Каб было паказана, як ён прайшоў шлях ад Пінска да Вільні, прадстаўлены яго літаратурныя роздумы, археалагічныя знаходкі, этнаграфічныя занатоўкі.

Ён казаў: "Я веру ў тое, што люблю, і люблю тое, у што веру. А я люблю і веру ў Беларусь."

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ГАСПАДАРКА

# Барацьба са свіной чумой працягваецца


Фота wallpaper-wide.ru

Паведамляйце аб захворваннях свіней ветдактарам.

**МАЛАДЗЕЧНА. Самае складанае ў гэтай барацьбе тое, што немагчыма спагназаваць, калі яна закончыцца. Кожны раён залежыць ад агульнай сітуацыі па краіне.**

Пра тое, якая цяпер сітуацыя з АЧС (афрыканскай чумой свіней), мы даведаліся ў размове з галоўным ветэрынарным доктарам раёна **Мікалаем Малінцом**.

**– Ці можна на прыватных падворках жыхарам трымаць свіней?**

– Ніхто не забараняў. Але небяспека ёсць заўсёды. Сітуацыя ў прыватных падворках найперш залежыць ад пільнасці і адказнасці саміх гаспадароў.

Калі яны будуць выконваць рэкамендаваныя намі правілы, то захаваюць падворак ад заносу інфекцыі.

**– Ці былі на Маладзечаншчыне выпадкі заражэння?**

– Не было ні ў падворках, ні на фермах. Усе меры, якія мы прымаем, накіраваныя на прафілактыку.

**– Адна з вашых рэкамендацый – не завозіць свіней без узгаднення з ветстанцыяй з іншых раёнаў. Ці было такое, каб у вас пыталіся, ці можна купіць свінню, напрыклад, з Валожына?**

– Такіх выпадкаў, каб да нас звярталіся з пытаннем, ці можна купіць свінню з іншага раёна, не было.

**– Ці можна на маладзечанскім жывёлагадоўчым рынку набыць парсючка з Маладзечанскага раёна?**

– Там наогул нельга купіць свінню. Згодна з рашэннем райвыканкама, забаронены продаж свіней і свініны на рынку. Вы бачыце, што прыватнікі на рынку свінінай не гандлююць, а толькі перапрацоўчыя прадпрыемствы: райспажыўтаварыствы, камбінат хлебапрадуктаў і "Дынамаалтымол".

**Са сваімі пытаннямі да ветэрынарнай станцыі можна звяртацца па тэлефонах: 8(0176) 50-04-09, 50-05-20.**

Парсючкоў цяпер могуць прадаваць толькі свінафермы і свінакомплекс "Барок". Продаж ідзе на тэрыторыі свінакомплексу. Чалавек заказвае, колькі яму трэба парсючкоў і якой вагой. Машыну апрацоўваюць, каб вірус, калі раптам падчапілі ў дарозе, не распаўсюджваўся на тэрыторыі фермы.

Калі ж парсючкоў па нейкіх прычынах не купілі, на ферму іх не вяртаюць, а вязуць адразу на перапрацоўчае прадпрыемства.

**– Значыць, на Маладзечаншчыне і свінні, і свініна толькі з нашага раёна?**

– Вядома, так. На восеньскіх кірмашах сёлета свініну можна набыць толькі з нашага раёна.

**– Прыватнікі адразу перасталі прадаваць свініну, як толькі выйшла адпаведнае рашэнне райвыканкама?**

– Спачатку тыдзень-другі, пакуль людзі зразумелі, былі выпадкі.

**– Ці існуе рызыка, што ачаг перакінецца на Маладзечанскі раён?**

– Рызыка ёсць заўсёды. Асноўная крыніца заносу інфекцыі – чалавек. Кожнаму не патлумачыш, а нават калі і патлумачыш, то неабавязкова, што ён прыме неабходныя меры. Трэба быць вельмі адказнымі тым, хто цяпер трымае свіней. У першую чаргу – не пускаць іншых людзей на свой падворак.

На ўваходзе ў хлеў паставіць дэзпадушку – збіць скрыню, напоўніць апілкамі, заліць дэзінфікуючым сродкам і накрыць мешкавінай. Чалавек становіцца на яе і такім чынам апрацоўваецца абутак, каб ён не разносіў вірус.

**Ад вірусу не існуе вакцыны. АЧС не нясе небяспеку для людзей.**

Цяпер нельга на палях збіраць пачаткі кукурузы: там ходзіць шмат дзікоў, якія могуць распаўсюджваць заразу. Пастаянна трэба праводзіць клінічныя агляды свіней.

**– Паляваць на дзікоў можа бяспечна?**

– Усіх упаляваных дзікоў неабходна здаваць на ветэрынарны аналіз.

**– Кілбасы і сасіскі з рынку можна есці, не баючыся чумы?**

– На рынку забаранілі прадаваць кілбасы ўласнай вытворчасці.

Усё, што праходзіць тэрмічную апрацоўку, чыстае ад гэтага вірусу, тэмпература яго забівае.

Таму мы і раім набываць грануляваны камбікорм – ён ужо прайшоў тэрмічную апрацоўку.

Зоя ХРУЦКАЯ.

## Парады, як змагацца з АЧС

1. Не скормлівайце свінням харчовыя адходы і адходы, якія атрымалі пасля забою свіней. Утылізавайце адходы ў спецыяльна адведзеных месцах.
2. Калі купляеце кармы, правярце дакументы: дазвол на рэалізацыю, пацвярджэнне бяспекі кармоў.
3. Не купляйце свіней і свініну на неўстаноўленых гандлёвых пунктах, без ветдакументаў.
4. Пускайце ветдактароў на падворкі для агляду свіней.
5. Паведамляйце аб захворваннях свіней ветдактарам ці сельвыканкамам адразу ж.
6. Не пускайце на падворак пабочных асоб.
7. Пастаянна змагайцеся з грызунамі.
8. Не завозьце свіней без узгаднення з Дзяржаўнай ветэрынарнай службай раёна.

| Курсы валют НБ РБ | 17.10 руб. | 24.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 160,00 | **9 150,00** |
| Еўра | 12 420,00 | **12 590,00** |
| Злоты | 2 965,84 | **3 011,55** |
| Літ | 3 595,47 | **3 645,64** |
| Расійскі рубель | 284,00 | **288,00** |
| Грыўня | 1 118,67 | **1 118,81** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9180/9270 | **9170/9250** |
| Еўра | 12400/12550 | **12590/12730** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 16.10 Цана руб. | 23.10 Цана руб. |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 105700 | **105900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 39950 | **45000** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | | **68000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 22300 | **22950** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **26800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 24800 | **26000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 75000 | **88000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 11000 | **11650** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10000 | **10000** |
| **Алей** | 14000 | **12500** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **4200** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7000 | **6800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9300 | **9300** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5000 | **5500** |
| **Капуста**, 1 кг | 3000 | **2500** |
| **Морква**, 1 кг | 5000 | **4000** |
| **Буракі**, 1 кг | 4000 | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 21000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16500 | **18500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 23800 | **23000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 14000 | **16000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 18000 | **18000** |
| **Перац**, 1 кг | 24000 | **12000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 17000 | **15000** |
| **Бананы**, 1 кг | 11500 | **10500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 12000 | **10000** |
| **Грушы**, 1 кг | 15500 | **19000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **40000** |
| **Бульба**, 1 кг | 3500 | **4000** |
| **Мёд**, 0,5 л | | **50000** |

ТРАНСПАРТ

# Аўтобус Краснае-Ілья не мяняе расклад

**ВІЛЕЙКА. МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак, 21 кастрычніка, у Раёўцы адбылася сустрэча паміж прадстаўнікамі аўтапарка №4 і мясцовымі жыхарамі.**

– Расклад аўтобуса застаецца ў сіле, – пракаментаваў сітуацыю намеснік дырэктара па перавозках аўтапарка **Віктар Руткоўскі**. – На сустрэчы мы гэта патлумачылі жыхарам.

Чытач Алег, які звярнуўся па дапамогу ў рэдакцыю "РГ", прапаноўвае сваю версію, чаму можа падаць, што гэты рэйс не вельмі папулярны:

– Збіраюцца адмяніць маршрутны аўтобусны рэйс Краснае-Ілья, які ідзе праз Раёўку. Мабыць, з-за малой колькасці пасажыраў. Але, як часам здараецца, кіроўцы проста не даюць білетаў, хоць аўтобус і адыходзіць цалкам запоўнены. Вось і ў суботу вечарам (18:20) аўтобус быў запоўнены цалкам, людзі стаялі, а білеты мала хто атрымаў.

Алег дадае, што на сустрэчы прадстаўнік аўтапарка сказаў, што продаж білетаў будзе на кантролі.

Чытач абгрунтоўвае, чаму гэты рэйс для многіх вельмі важны:

– Для жыхароў Раёўкі ды іншых вёсак (Шыпкоў, Сакалоў, Ільі) адмена рэйса была б сапраўднай бядой. Аўтобус ходзіць з Краснага на Ілью у будні тры разы на дзень (адпраўленне ў 8:20, 14:20, 18:20), у выхадныя, у 12:30, дадаецца рэйс з Краснага. Потым аўтобус вяртаецца з Ільі назад. Штодня кожным рэйсам карыстаюцца некалькі дзясяткаў чалавек. Людзі ездзяць у Маладзечна, Мінск, Краснае па сваіх справах і на працу, у Раёўцы жужо каторы год не працуе кардонная фабрыка, і людзі сядзяць без працы. Штодня паўтара дзясятка чалавек з той жа Раёўкі дабіраецца да Краснага, каб потым паехаць на працу на керамічны завод у Радашкавічах. Працуюць людзі таксама ў Красным, у Чысці ва "Забудове". Нямала людзей дабіраецца з Ільі на электрычку ў Краснае (станцыя Уша).

У той Раёўцы жыве каля 500 чалавек. Заказаць таксі з Маладзечна каштуе больш за 100 тысяч рублёў. Далёка не кожнаму гэта па кішэні. Са знікненнем аўтобуса людзі (а вялікую колькасць складаюць пажылыя) пазбавяцца проста магчымасці самім дабрацца да бальніцаў у Чысці ці Маладзечне.

Зоя ХРУЦКАЯ.

# Столькі выпілі, што не чулі плач сваіх дзяцей


Фота sakhalife.ru.

Адзін недарэчны выпадак можа пазбавіць самага галоўнага — шчасця дзяцей.

**ВАЛОЖЫН. У чацвер ноччу, 17 кастрычніка, жыхары дома па вуліцы Партызанскай прачнуліся ад плачу дзяцей.**

Як потым стала вядома, перад гэтым маладая сям'я адзначала наваселле. Сацыяльную кватэру муж з жонкай і іх двое дзяцей атрымалі гэтым летам.

Ноччу суседзі пачулі плач дзяцей, які даносіўся з кватэры навасельцаў. Яны чакалі, пакуль тыя супакояцца, аднак плач станавіўся толькі мацнейшым. Суседзі не вытрымалі і выклікалі міліцыю.

– Бацькі былі настолькі п'яныя, што нават не чулі званкоў і грукання ў дзверы, – кажа інспектар дзяржпажнагляду Валожынскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алеся Радвіловіч**. – Давялося адчыняць дзверы выратавальнікам.

У кватэры было двое дзяцей: шасцімесячны хлопчык і двухгадовая дзяўчынка. Нягледзячы на тое, што яны моцна плакалі, бацькі спалі і ніяк не рэагавалі. Іх давялося будзіць супрацоўнікам Валожынскага РАУС.

– Цяпер дзеці лічацца ў сацыяльна небяспечным становішчы, таму што такая сітуацыя можа паўтарыцца, – дадае Алеся Радвіловіч.

### Раней такога ў сям'і не было

На раніцу да бацькоў завіталі супрацоўнікі Валожынскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

– Маладая маці спакойна адчыніла дзверы і ўпусціла нас у кватэру, – распавядае спецыяліст па сацыяльнай рабоце аддзялення сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі **Вольга Акульская**. – Яна ўважліва слухала заўвагі.

Некаторыя ў падобных сітуацыях раніцай могуць паводзіць сябе агрэсіўна ці адмаўляць тое, што здарылася.

Жанчына жыве разам з мужам. Яму 21 год, ёй – 20. Пара ажанілася пасля таго, як нарадзілася другое дзіця. Сама маладая маці сірата, таму кожныя тры месяцы сацработнік прыходзіць да іх з праверкай.

Па словах Вольгі Акульскай, падобных выпадкаў у гэтай сям'і ніколі не было. Не было заўважана, што бацькі кепска даглядаюць дзяцей.

– У адказ на пытанне, як такое магло здарыцца, жанчына сказала, што яны з мужам вечарам адзначалі наваселле, – кажа спадарыня Вольга.

Маці раскайвалася, прасіла прабачэння, клялася і абяцала, што больш такога не паўторыцца.

За падобнымі выпадкамі стаіць пытанне аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

■ СЛУЖБА 101

## Пажарны апавяшчальнік выратаваў жыццё

**АШМЯНЫ. Учора каля 22.30 жанчына з вёскі Шчыпанавічы пачула гук пажарнага апавяшчальніка, выглянула на вуліцу, а там з дома суседзяў ідзе дым.**

Апавяшчальнік знаходзіўся не ў кватэры, а звонку. Таму суседцы было добра чуваць. Яна адразу ж выклікала выратавальнікаў, якія паспелі выратаваць гаспадара кватэры №2, дзе і пачаўся пажар.

Дом двухкватэрны. Жыхары кватэры №1 самі выйшлі на вуліцу, сталі ды нечага чакалі, але ў МНС не званілі.

Пацярпелы гаспадар цяпер знаходзіцца ў рэанімацыі Ашмянскай ЦРБ. У яго вострае атручэнне прадуктамі гарэння.

Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

Пра здарэнне расказаў начальнік цэнтра прапаганды і навучання Гродзенскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях **Уладзімір Маслаў**.

**Настасся РОЎДА.**


Фота забяспечана Уладзімірам МАСЛАВЫМ.

Мужчыну выратавалі дзякуючы пажарнаму апавяшчальніку.

■ ЗДАРЭННІ

## Мужчыну і жанчыну выратавалі на пажары

**ВІЛЕЙКА. Пажар адбыўся 16 кастрычніка ў кватэры на другім паверсе двухпавярховага жылога дома ў Вілейцы па завулку Школьны. Паведамленне паступіла каля апоўначы.**

– Па прыбыцці на месца здарэння выратавальнікі ўбачылі, што з дзвярэй кватэры ідзе дым, – расказвае інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Казакевіч**.

Выратавальнікам давялося апранаць ізалюючыя процівагазы, каб зайсці ў кватэру. Там знайшлі 40-гадовую гаспадыню, якую вынеслі на руках. Дапамаглі выратавацца і 49-гадоваму мужчыну, які жыве разам з ёй.

Ад шпіталізацыі яны адмовіліся.

У выніку пажару агнём пашкоджаны пасцельныя прыналежнасці, ложак. Прычына пажару – курэнне ў ложку.

**Аддзел інфармацыі.**

## Падчас пажару загінуў мужчына

**ВІЛЕЙКА. 18 кастрычніка каля васьмі гадзін раніцы вілейскім выратавальнікам паступіла паведамленне аб загаранні ў жылым доме ў вёсцы Рэдзькавічы Вязынскага сельсавета. Паведаміла пра гэта суседка.**

Калі выратавальнікі прыбылі на месца здарэння, то знайшлі труп 50-гадовага гаспадара. У пакоі на плошчы каля аднаго квадратнага метра была прагарына, іншых пашкоджанняў не было.

– Папярэдняя прычына здарэння – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні, – паведаміў інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Казакевіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Хлопчык пайшоў у школу і не вярнуўся

**СМАРГОНЬ. Смаргонскі РАУС шукае Яўгена Сяргеевіча Харчанку.**

Ён 2002 года нараджэння, пражывае ў горадзе Смаргоні па вуліцы Дзеруна, 1-а. 11-гадовы Яўген 23 кастрычніка раніцай пайшоў з дому і да гэтага часу яго месцазнаходжанне невядомае,– паведамляе начальнік Смаргонскага РАУС **Вячаслаў Страчынскі**.

Прыкметы хлопчыка: рост 160 см, хударлявага целаскладу, карыя вочы, русыя валасы. Сутуліцца.

Быў апрануты: куртка асенняя шэрая, шапка вязаная з серабрыстымі ўстаўкамі, спартыўныя штаны чорнага колеру, кеды з белымі шнуркамі.

Усіх, хто валодае якойнебудзь інфармацыяй пра зніклага хлопчыка або пра яго месцазнаходжанне, просім паведаміць па тэлефонах: **8-01592- 3-32-41** (начальнік РАУС), **8-01592-3-14-42** (дзяжурная часць), або па тэлефоне **102**.

**Наталля ТУР.**

■ КРАДЗЯЖЫ

## Зайшлі папіць вады – укралі грошы

**МЯДЗЕЛ. Крадзеж адбыўся 18 кастрычніка ў вёсцы Замошша Мядзельскага раёна.**

Пачалося ўсё з таго, што да пенсіянераў завіталі дзве невядомыя жанчыны: папрасілі папіць, паесці. Іх упусцілі ў дом.

– Праз некаторы час пасля іх сыходу гаспадары ўбачылі, што зніклі грошы – пяць з паловай мільёнаў рублёў, якія знаходзіліся пад матрацам, – паведаміў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта РБ **Аляксандр Штура**.

Узбуджаная крымінальная справа за крадзеж, здзейснены з пранікненнем у жыллё.

**Аддзел інфармацыі.**

ВЕДАЙ СВАЕ ПРАВЫ!

# Некаторым здаровым трэба навучыцца чалавечнасці


Фота remont.andrey-b.com.

Дзеці – гэта шчасце. Але за яго часам трэба пазмагацца.

**МАЛАДЗЕЧНА. Якімі льготамі можа карыстацца чалавек, які мае групу інваліднасці? Якія базавыя правы для іх застаюцца недаступнымі? І дзе правa мяжуе з чалавечнасцю?**

На пытанні жыхароў горада, якіх датычыцца пытанне інваліднасці, адказвалі юрысты офіса па правах людзей з інваліднасцю **Вольга Трыпуцень** і **Лілія Воліна**. Сустрэчу арганізаваў Маладзечанскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнай абароны насельніцтва.

Найперш псіхолаг **Алена Камісарук** паведаміла, што пры патрэбе любы можа атрымаць псіхалагічную падтрымку ў цэнтры.

**Маладзечанскі цэнтр сацабслугоўвання насельніцтва знаходзіцца па вуліцы Таўлая, 4. Тэлефоны: псіхолага – 8(0176) 74-66-20, юрыста – 77-75-78.**

Першае пытанне, якое закранулі юрысты, – даступны асяродак. Вольга падкрэсліла, што, з яе пункту гледжання, адсутнасць безбар'ернага асяроддзя – гэта парушэнне правоў чалавека, які мае інваліднасць. Кожны грамадзянін мае пэўны набор правоў, якія забяспечвае яму дзяржава, і сярод іх – свабоднае перамяшчэнне.

Чалавек з абмежаванымі магчымасцямі – такі самы, як і ўсе іншыя, але яму трэба крыху дапамагчы. І тады ён зможа самарэалізавацца.

Так і адзін жыхар Маладзечна дабіўся таго, што да яго кватэры, да балкона, зрабілі пандус.

Здараецца, што дзяцей, якія маюць асаблівасці развіцця, не хочуць прымаць у інтэграваныя групы ў школах, якія спецыяльна створаныя для таго, каб усе дзеці на роўных умовах маглі вучыцца. У такіх выпадках трэба пісьмова звяртацца да службовых асоб, якія займаюцца фарміраваннем групы, і нагадаць, што найважнейшая задача дзяржавы – гэта ахова дзяцінства, і кожнаму павінна забяспечвацца права выбару навучальнай установы.

Юрыст нагадала, што **інваліду гарантуюць наступныя правы:**

- бясплатную медыцынскую, дэфекталагічную і псіхалагічную дапамогу
- права выбару навучальнай установы
- бясплатнае санаторна-курортнае лячэнне
- сацыяльную рэабілітацыю
- працаўладкаванне адпаведна з магчымасцямі
- адукацыю на ўсіх узроўнях.

Хаця далёка не ўсе гэтыя правы рэалізуюцца. Амаль няма навучальных устаноў ні сярэдняга, ні вышэйшага ўзроўню, дзе былі б прыстасаваныя прыбіральні для тых, у каго, напрыклад, праблемы з апорна-рухальным апаратам.

Пытанні наконт сацыяльнай пенсіі, дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі, кампенсацыі выдаткаў за падгузнікі і лекі – адны з найбольш хваюючых для многіх сямей.

## Як даведацца пра правы

Калі даюць пасведчанне інваліднасці, да яго не прыкладаюць спіс правоў і льгот, на якія цяпер чалавек мае права. У той жа час кожную сітуацыю варта разглядаць індывідуальна, каб нічога не прапусціць. У гэтым могуць дапамагчы юрысконсульт цэнтра, а таксама спецыялісты аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва райвыканкама.

Вольга так і прапанавала зрабіць – даслаць у цэнтр сацабароны заяву з просьбай пералічыць усе льготы, на якія вы маеце права, прыклаўшы копіі ўсіх адпаведных дакументаў.

## Усе скаргі афармляйце пісьмова!

Юрысты звярнулі ўвагу, што існуе такі від дапамогі, які выдаецца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Аднак ў заяве неабходна як мага больш поўна апісаць сваю сітуацыю, каб чалавек, які будзе прымаць рашэнне аб прызначэнні, мог аб'ёмна яе ўявіць.

Адна жанчына паскардзілася, што замест замежных лекаў, якія ёй дапамагаюць, ёй выпісваюць танны беларускі аналаг. У такіх сітуацыях юрыст раіць пісаць просьбу разгледзець сітуацыю кіраўніку ўстановы. Потым – у вышэйстаячую ўстанову. Прычым усе звароты трэба перадаваць пісьмова і патрабаваць пісьмовыя адказы, якога б пытання яны ні тычыліся. Нярэдкія выпадкі, калі ад вусных заяў адказныя асобы потым адмаўляюцца.

## Што будзе з ёй, калі вы памраце?

Многія, хто прыйшоў на сустрэчу, атрымалі не толькі юрыдычную кансультацыю, але і змаглі выгаварыцца пра набалелае.

Напрыклад, адной жанчыне на медыка-рэабілітацыйнай камісіі задалі пытанне: "А як будзе ваша дачка, калі вы памраце?" Калі яны, маючы другую групу інваліднасці, выраршылі праверыць, ці варта ім пераходзіць на першую, іх таксама чакала запамінальнае выказванне: "Дзяўчынка, калі ты будзеш ляжаць у ложку з суднам і мама будзе карміць цябе з лыжачкі, вось тады прыходзь". Тут юрыст звяртае ўвагу, што кожны мае права на гуманнае стаўленне да яго з боку доктара.

Хаця ў той жа час той самы доктар дапамог на раннім этапе выявіць праблему ў іншага дзіцяці, і тое выздараўлівае. Трапляюцца і такія дактары, якія ўспрымаюць чужую праблему з усёй адказнасцю, падтрымліваючы пацыента.

Іншая жанчына, у дзіцяці якой былі праблемы з наборам храмасом, не можа забыць, як доктар ёй выдаў: "Трэба было менш піць".

Яшчэ адна мама прыгадала, што пасля родаў заўважыла, што ў яе дзіцяці шырока расстаўленыя ножкі. Доктар на яе заўвагу адмахнуўся і адказаў, што яна нічога не разумее. Пазней у Бараўлянах ёй патлумачылі, што калі б яна звярнулася крыху раней, то праблему можна было б выправіць шырокім спавіваннем. А цяпер дзяўчына не ходзіць.

Іншая скардзіцца, што ў паўгода дачцэ зрабілі прышчэпку, пасля якой дзяўчынку паралізавала. Намаганнямі бацькоў яна вяртала і набывала новыя навыкі.

У іншай мамы ў нованароджанага быў нязросшыся язычок. Такое дзіця трэба вельмі пільна даглядаць, каб яно не захлынулася ці не задыхнулася. А для жанчыны было самым балючым, што ў раддоме ёй не давалі паглядзець на яго праз шкло, не трымалі ўвесь час у курсе справы. Для маладой мамы кожная хвіліна была трывожнай: што ж там з маленькім?

Аперацыі па выпраўленні такіх недахопаў трэба рабіць да трох месяцаў. Ёй яшчэ пашанцавала, што зрабілі ў шэсць.

## Усе дзеці – гэта шчасце!

Усе свае крыўды, страхі жанчынам дапамагае вырашыць клуб псіхалагічнай падтрымкі "Мы разам" для бацькоў дзяцей да пяці год, якія маюць інваліднасць. Ім кіруе Алена Камісарук.

– Пра многія рэчы мы даведаліся дзякуючы таму, што ў іншых мам ёсць такі досвед. Ведаеце, шкадаваць ні нас, ні нам, няма чаго. Дзеці – гэта шчасце! – гаворыць адна з удзельніц. – Некаторыя мамы ў такіх сітуацыях закрываюцца. Але трэба дзяліцца сваім досведам з іншымі. Больш трэба пачаваць са здаровымі людзьмі, чым з інвалідамі.

Жанчыны кажуць, што вельмі важна, каб у дзіцяці былі сябры. Пакажыце ім, што асаблівасць развіцця – толькі адна асаблівасць, а астатняе ўсё нармальна, і яны пагодзяцца. Некаторыя бацькі кажуць: "Не сябруй з ім, у яго тое і тое". Наўрад ці гэта здаровы падыход. Адна дзяўчынка, на адной ручцы якой няма кісці, мае сяброў і гуляе, як любая іншая. Галоўнае – самім бацькам успрыняць асаблівасць спакойна і прыняць яе.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

## Дзесяць пажаданняў

**Парады, як сябе паводзіць з чалавекам, які мае абмежаваныя магчымасці.**

1. Падчас размовы звяртайцеся непасрэдна да чалавека, які мае інваліднасць. Не варта звяртацца да сурдаперакладчыка ці асобы, якая яго суправаджае. Звяртайцеся да чалавека з інваліднасцю па імю, калі ў групе гэтак жа звяртаюцца да іншых.
2. Пацісніце руку пры знаёмстве будзе цалкам да месца. Нават той, хто носіць пратэз ці мае складанасці з рукой, зможа паціснуць руку ў адказ правую ці левую, што дапушчальна.
3. Калі прапануеце сваю дапамогу, чакайце, пакуль яе прымуць. І толькі потым абавязкова ўдакладніце, як менавіта вы можаце дапамагчы.
4. Не паказвайце апякунскае стаўленне да чалавека ў інвалідным вазку. Не варта класці руку яму на галаву ці плячо, не называйце памяншальнымі імёнамі.
5. Крэсла-вазок – частка ўласнай недатыкальнай прасторы чалавека. Апіраца ці павіснуць на ім раўназначна таму, што робіце тое самае з гаспадаром.
6. Падчас размовы з чалавекам, які карыстаецца інвалідным вазком ці мыліцамі, станьце так, каб вашы і яго вочы былі на адным узроўні. Вам абаім будзе прасцей размаўляць.
7. У размове з чалавекам, якому складана размаўляць, слухайце яго ўважліва і цярпліва. Чакайце, пакуль ён сам завершыць фразу, не выпраўляйце і дагаворвайце за яго. Пры неабходнасці задавайце кароткія пытанні, якія патрабуюць кароткага адказу, кіўка ці жэста.
8. Пры сустрэчы з чалавекам, які дрэнна бачыць, абавязкова назавіце сябе і людзей, якія прыйшлі з вамі. Падчас гутаркі ў групе тлумачце, да каго звяртаецеся, і не забывайце называць сябе.
9. Каб прыцягнуць увагу чалавека, які дрэнна чуе, памахайце яму рукой ці папляскайце па плячы. Выразна прагаворвайце словы, глядзіце прама ў вочы. Калі гаворыце з чалавекам, які ўмее чытаць па вуснах, станьце так, каб вас было добра відаць і нічога не замінала бачыць, што вы гаворыце (ежа, цыгарэта, рукі).
10. Паводзьце сябе спакойна. Не варта бянтэжыцца, калі дапусцілі памылку і выпадкова сказалі "паглядзі" чалавеку, які не бачыць, ці "пайшлі" таму, каму гэта гаварыць было не варта.

**Паводле паштоўкі Рэспубліканскай асацыяцыі інвалідаў-калясачнікаў, Цэнтра прававой трансфармацыі і Фонду развіцця прававых тэхналогій.**

**У аснове тэксту – матэрыялы Карэн МАЕР.**

ПАМЯЦЬ

# Адкрылі памятны знак воінам-інтэрнацыяналістам

**МЯДЗЕЛ. У пятніцу, 18 кастрычніка, у райцэнтры ўрачыста адкрылі памятны знак воінам-інтэрнацыяналістам.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Размешчаны ён у скверы ля ўезда ў горад, насупраць пажарнай часці.

Пад гукі духавога аркестра з воінскай часці 04152 Маладзечна ў скверы сабраліся воіны-інтэрнацыяналісты, кіраўніцтва раёна, жыхары Мядзела, госці.

Пасля прамоў выступоўцаў надышоў час адкрыць памятны знак. Выканалі гэту місію старшыні – райвыканкама **Ілля Шацько** і раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане" **Юры Мяркулаў**, камісар ваеннага камісарыята Мінскай вобласці **Мікалай Крыўчэня**. Асвяціў знак благачынны цэркваў Мядзельскай акругі, протаіерэй **Ігар Шалуха**.

Хвілінай маўчання ўшанавалі памяць загінулых у Афганістане – сярод іх і ўраджэнец вёскі Канцэнтэны Мядзельскага раёна **Іван Аніська**. Да памятнага знака людзі ўсклалі кветкі, вянкі.

Прыйшоў на адкрыццё і іншаземец – Макс Бюнкер з Германіі. І хоць ён адразу папярэдзіў, што не вельмі добра гаворыць па-руску, але прычыну сваёй прысутнасці патлумачыць здолеў:

– Мая жонка з Мядзела. Мы даведаліся, што будуць тут адкрываць помнік. Я сюды прыйшоў, таму што ведаю, што было ў Афганістане, люблю інтэрнацыяналізм, і таксама я – антыімперыяліст.

А ў старшыні раённай арганізацыі "Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане" Юрыя Мяркулава спыталі, да чаго прымеркавалі ўзвядзенне памятнага знака:

– Яго прымеркавалі да 25-годдзя вываду савецкіх войск з Афганістана, якое будзе адзначацца 15 лютага 2014 года. Цяпер кожны год, у Дзень памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў, будзем падыходзіць да гэтага знака, аддаваць даніну павагі загінулым і жывым.

Алесь ВЫСОЦКІ.

ВЫСТАВЫ

# *Мікола Аўчыннікаў:* "На ўласнай выставе мог забранзавець"

**МАЛАДЗЕЧНА. Адкрыццё выставы з паэтычнай назвай "Вандроўкі па зямлі і прасторы" адбылося ў пятніцу, 18 кастрычніка.**

Перад пачаткам мастак сам знаёміў прысутных са сваімі творамі.

– Я хацеў у гэтай выставе сабраць работы розных перыядаў маёй творчасці, розных напрамкаў, каб гледачам было цікава. Адзінае, што аб'ядноўвае іх, – маё захапленне Беларуссю. Кожная праца запрашае на вандроўку па беларускай зямлі, таму і назва выставы такая, – распавядае **Мікола Аўчыннікаў.**

І сапраўды, назвы карцін пераносяць у знаёмыя месцы: Лебедзева, Мядзел, Хоўхлава, Радашкавічы. Ранішні золак ці пахмурны дзень, туман ці вячэрняя імгла – акварэлі Міколы Аўчыннікава стрыманыя, пастэльныя.

**– Мікола Віктаравіч, усе вашы работы выканыя ў стрыманых тонах. Чаму?**

– Я ж не ў Азербайджане нарадзіўся, каб было ўсё ярка і страката. Прырода Беларусі сама па сабе стрыманая, як і мы, беларусы. Няма ў нас кідкасці. Мяркую, што мы ўвогуле самы сціплы народ у свеце. І фарбы таму такія. У мяне ўвогуле не было мэты стварыць "салодкую цукерку", каб глядач "пасмактаў", падзівіўся, праглынуў і з пустой душой пайшоў дадому. Я хачу, каб мой глядач разважаў, думаў.



Фота Наталлі ТУР.

Свайго калегу прыйшла павіншаваць мастачка Ядвіга Сянько.

**– У вашых прац такія маляўнічыя назвы "Сон сівых курганоў", "Прастора адыходзячага лета". А што нараджаецца раней: карціна ці назва да яе?**

– Ведаеце, за гэтыя гады па-рознаму было. Бывае, чытаю які твор, а там трапляюцца такія вобразы. Я не паэт, каб прыдумваць нейкія там назвы, але я як мастак імкнуся заўважаць іх.

– А мне падабаюцца філасофскія рэчы Міколы Віктаравіча,– гаворыць **Наталля Палтавец**, дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея. – Таму я раю наведаць выставу Міколы Аўчыннікава, каб паразважаць, забыцца на штодзённыя клопаты, дакрануцца да сапраўднага мастацтва. Я заўважыла, што чым даўжэй глядзіш на палотны мастака, тым больш адкрываецца схаваны на першы погляд сэнс, хочацца, каб і нашы наведнікі адчулі тое ж.

Павіншаваць Міколу Аўчыннікава з адкрыццём персанальнай выставы прыйшло шмат вядомых асоб, сяброў, вучняў мастака. Сярод прысутных былі мастакі **Мікола Мішчанка, Васіль Касцючэнка, Эдуард Мацюшонак, Ядвіга Сянько,** дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі **Уладзімір Пракапцоў.**

Уладзімір Пракапцоў адзначыў, што Мікола Аўчыннікаў сваёй творчасцю ўнёс непаўторныя фарбы ў палітру горада і што Маладзечну вельмі пашчасціла, бо тут працуе мастак такога ўзроўню.

Са словамі Уладзіміра Пракапцова цяжка не пагадзіцца, а сам віноўнік урачыстасці жартаваў, што ад сказаных у яго адрас слоў можна "забранзавець" на месцы.

Ад сябе хочацца дадаць, што ў кожнай карціне Міколы Аўчыннікава можна прачытаць клопат аб будучым Беларусі, аб той спадчыне, якую мы пакінем пасля сябе. Выстава ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі будзе доўжыцца да 18 лістапада, таму ў вас ёсць магчымасць наведаць яе, каб скласці сваё ўласнае меркаванне пра асобу і творчасць нашага земляка Міколы Аўчыннікава.

**Наталля ТУР.**

ТВОРЧАСЦЬ

# Кніга вершаў на рускай і беларускай мовах выйшла ў Расіі

**ВІЛЕЙКА. Настаўніца з вёскі Ілья Аксана Ярашонак паўдзельнічала ў міжнародным праекце, у выніку якога выйшаў зборнік вершаў "Славянскага болю карункі".**

Кнігу выдалі ў маі, а ў верасні з гэтай нагоды арганізавалі літаратурны фестываль.

А пачалася ўсё з таго, што Аксана ў газеце "Літаратура і мастацтва" ўбачыла запрашэнне паўдзельнічаць у праекце, каб стварыць зборнік беларускіх і рускіх аўтараў. Ёй прапанавалі перакласці вершы ўдзельнікаў літаратурнага аб'яднання "Чайка" ў Таганрогу.

Старшыня аб'яднання Леанід Север меркаваў, што ў выніку выйдзе зборнік з вершамі рускіх паэтаў, якія на беларускую мову перакладзе некалькі беларускіх паэтаў. Але ў Аксаны справа пайшла так спраўна, што, пакуль іншыя перакладчыкі спалі, сабралася кніжка толькі з яе перакладамі.

Упершыню з Леанідам Аксана сустрэлася ў маі, пасля таго, як кніга выйшла. Аказалася, што ён працуе дальнабойшчыкам. На рабоце яму спатрэбілася быць у Бранску. А адтуль не так далёка Гомель, а пасля і Мінск.

– Мы сустрэліся, было вельмі цікава нарэшце пагаварыць з ім пасля таго, як мы некалькі месяцаў вялі ўсе размовы праз інтэрнэт, – прыгадвае паэтка. – І ён кажа, што было б добра запрасіць вас у Таганрог. Таму што гэта кніга – адна з частак міжнароднага праекта, у якім задзейнічаныя і ўкраінскія паэты, і беларускія, і расійскія. Вядома, было б добра сустрэцца, але гэтыя словы я тады ўспрыняла як нейкую фантастыку.

### Ад Вілейкі да Таганрога каля 1 500 кіламетраў.

А ў сярэдзіне ліпеня яна ўжо атрымала афіцыйнае запрашэнне прыехаць на трохдзённы фестываль у Таганрог у верасні. Прымаючы бок узяў усе выдаткі на сябе. Дарога была няпростай, але ўсё кампенсавала мноства станоўчых эмоцый.

– Было вельмі цікава пазнаёміцца з тымі аўтарамі, вершы якіх я перакладала. Яны падыходзілі і дзякавалі. А я прыгадвала іх вершы і зачытвала. Мне яны добра запомніліся, бо кожны я прапускала праз сябе. Ім гэта было надзвычай прыемна.

У Таганрогу паэты чыталі свае вершы на некалькіх пляцоўках. У скверыку закаханых – інтымную лірыку, на іншай пляцоўцы – патрыятычную.

### І за 1000 кіламетраў ёсць беларускае

Арганізатары вельмі добра выбралі час: якраз у гэтыя дні ў Таганрогу быў фестываль "Садружнасць" прадстаўнікоў краін СНД і Балтыі. У межах яго прадстаўнікі краін дэманстравалі розныя абрады, нацыянальныя стравы. Для Аксаны было вельмі хвалююча пачуць у Таганрогу беларускую песню "Ой, сівы конь бяжыць".

– Эмоцыі проста неперадавальныя. Тое самае нам казалі беларусы, якія прыехалі на "Садружнасць". Цяжка перадаць словамі тыя адчуванні, калі ты за 1000 кіламетраў ад радзімы чуеш беларускі верш.

Арганізатары падрыхтавалі для іх і экскурсію па слаўных мясцінах. Аксана пабачыла дом, дзе нарадзіўся Антон Чэхаў, а таксама бакалейную лаўку, куды яго сям'я пераехала, як пабагацела. Раскопкі старажытнага горада Танііса, заснаванага ў трэцім тысячагоддзі да нашай эры элінамі. Пабачылі помнікі ў гонар заснавальніка горада Пятра Першага, Аляксандра Першага, які таксама звязаны з Таганрогам.

Аксана дадае, што вельмі ўдзячная мужу і ўсім сваякам, таму што магла ехаць са спакойнай душой:

– Ведала, што абедзве дачкі будуць дагледжаныя. Я лічу, што кожнаму трэба ў жыцці нейкая аддушына – ці творчасць, ці нейкае захапленне. Я вельмі шчаслівая, што у мяне ёсць тое, што так мне па душы!

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# *Мікалай Дзінаў:* "Кіно? Графіка? Але ж магчымасці тэатра бязмежныя"

**У кастрычніку мастацкі кіраўнік Мінскага абласнога драмтэатра святкуе 55-годдзе ў тэатральным жыцці**



Мікалай Мікалаевіч з работніцамі Мінскага абласнога драмтэатра (злева направа): Ларыса Маслоўская, Елізавета Дубовік, Ганна Луновіч.

**МАЛАДЗЕЧНА. За што студэнт Дзінаў атрымаў кол па палітэканоміі сацыялізму? Хто аднойчы ноччу напаў на яго, прыкінуўшыся сябрам? Пра складаныя, незразумелыя, цікавыя, а часам дзіўныя эпізоды свайго жыцця распавядае Мікалай Дзінаў.**

– Я паманаложу, – кажа спадар Мікалай і пачынае свой аповед. – У ліпені 1958 года я з поспехам праваліўся на экзаменах у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Мяне не прынялі.

Бацька ў той час быў вайскоўцам, уладкаваў мяне мулярам-мантажнікам у штаб Беларускай ваеннай акругі. Вось тут пачынаецца драматургія. 1 верасня 1958 года. Трэба ж было так здарыцца, каб мне загадалі капаць канаву і пракладваць кабель наўпрост побач з будынкам тэатральнага інстытута. І вось я сяджу ў гэтай канаве, хаваю сваю морду і гляджу, як ідуць тыя, хто паступіў у адрозненне ад мяне. Тады даў сабе клятву, што ўсё роўна буду там вучыцца.

### Клятву, якую даў сабе, выканаў

У кастрычніку таго ж года мяне ўзялі працаваць артыстам міманса (у дапаможную групу акцёраў) у Дзяржаўны Вялікі тэатр оперы і балета БССР. Потым паступіў у студыю кінаакцёра пры "Беларусьфільме".

Пасля мяне, 19-гадовага хлопца, забралі ў армію ў ракетныя войскі стратэгічнага прызначэння. І я пайшоў на тры гады служыць. А гады яшчэ якія, 1960-1963. Якраз у 1962 годзе быў Карыбскі крызіс, у якім я прымаў удзел.

Калі вярнуўся, курс у інстытуце ўжо набралі. Аднак паколькі ўсе выкладчыкі былі тыя ж самыя, што і ў студыі кінаакцёра, то мяне ведалі і ўзялі. Памятаю, як яшчэ з Дзмітрыем Арловым, бацькам Таццяны Арловай, вядомага літаратурнага крытыка, стаялі ды абдымаліся на лесвіцы.

Я правучыўся там чатыры гады. Потым мяне ўзялі артыстам ў Дзяржаўны рускі драматычны тэатр імя Максіма Горкага ў Мінску (сёння – Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Максіма Горкага). Там я прапрацаваў пяць гадоў.

### Хуліганіў так: лятаў паабедаць у Маскву

Потым у мяне адбылася адна з сямейных драм, якіх пасля было шмат, і я з'ехаў вельмі далёка, у расійскі горад Нарыльск. Там працаваў каля шасці гадоў артыстам Нарыльскага Запалярнага тэатра драмы і камедыі імя Уладзіміра Маякоўскага.

Неяк мне пашанцавала, і я пазнаёміўся з Раісай Смолавай, дырэктарам мясцовай студыі тэлебачання. Там зняў сваё першае кіно. Называлася "Бой мясцовага прызначэння" па расказе Васіля Быкава "Адна ноч". Вазіў потым паказваць яму ў Гродна, ён тады там жыў. Васілю Быкаву спадабаўся фільм, і яго потым штогод паказвалі ў Нарыльску 23 лютага.

А яшчэ з Нарыльска мяне пасылалі ў лабараторыю да тэатральнага рэжысёра Андрэя Ганчарова. Лятаў з Нарыльска ў Маскву. Тады гэта было проста і нядорага. Білет каштаваў 50 рублёў. А заробак у мяне быў 300 рублёў. Цяпер ніякага заробку не хопіць, каб у Нарыльск злётаць. Мы нават абедаць лёталі ў Маскву. Хуліганілі так…

### Артыст з абмежаванымі магчымасцямі

А потым мне зламалі пазваночнік. З-за майго характару, сам вінаваты. Была зіма, мо, градусаў 40 марозу. Ішоў гуляць у прэферанс да маіх сяброў, калегаў-артыстаў. А насустрач – натоўп мужыкоў. Не, каб прапусціць... Пайшоў пасярод іх. Ну, яны "га-га-га", збілі шапку. А я павярнуўся і кажу: "Ну што ж вы так робіце, дурні вы гэтакія". І пайшоў.

Мяне даганяюць трое: "Мікалай Мікалаевіч, – звяртаюцца да мяне, – хто вас пакрыўдзіў? Мы вас ведаем, вы артыст тэатра. Куды ідзяце?" Кажу: "Да сяброў у карты гуляць". Яны: "Мы вас правядзём". Я: "Навошта?" А там прайсці літаральна метраў 200. Не, "мы вас правядзём", і ўсё.

Прайшліся мы крыху, да вяршыні горкі дайшлі, а там яны наляцелі. Нож з'явіўся аднекуль. Я быў у жудасным стане. Зламалі чацверты і пяты шыйныя пазванкі, руку разрэзаў, бо нож злавіў. Чатыры квадратныя метры зямлі былі залітыя крывёю.

Выскачыў я на дарогу – усе машыны шарахаюцца. Потым нейкі дзядзька прывёз у траўмпункт. Ну і пачалося. Я нічога не памятаў. Паўтара года адлежаў. Ну і, карацей кажучы, артыст з абмежаванымі магчымасцямі. Амаль год хадзіў у гарсэце.

І дзякуй Леаніду Бляўскаму за тое, што даў мне пастаноўку. Гэта быў спектакль "Эй, хто-небудзь" па творы амерыканскага пісьменніка Уільяма Сараяна. Мой першы прафесійны. Паставіў і потым мяне, як качаня ў Волгу, укінулі ў прафесійны тэатр рэжысёрам-пастаноўшчыкам.

**– Што вы адчувалі пасля таго, як сталі прафесійным рэжысёрам?**

– Тое, што адчувае чалавек, які не ўмее плаваць, але якому абавязкова трэба выплысці. Вось і ўсе адчуванні.

Тэатр быў гарадскі, у Канску, у Сібіры. Мы там нават ладзілі свой Канскі фестываль, – жартуе Мікалай Мікалаевіч. – План на год проста астранамічны: 10 спектакляў і два рэжысёры. Сем спектакляў ставіў я. Гэта цудоўная школа, разумееце?

Два ці тры гады прапрацаваў у тэатры, а пасля мяне адправілі вучыцца на Вышэйшыя тэатральныя курсы пры расійскім універсітэце тэатральнага мастацтва ў Маскве. Там маім настаўнікам быў вядомы тэатральны рэжысёр, народны артыст СССР Андрэй Ганчароў. У 81-м скончыў і ад таго часу лічу сябе дыпламаваным рэжысёрам.

### Паступаў на лётчыка

**– Мікалай Мікалаевіч, а чаму ўсё ж тэатр?**

– А я не ведаю, чаму тэатр. Усё жыццё марыў быць лётчыкам. Нават паступаў… У той час былі такія авіяцыйныя спецшколы. Туды ад 14 год бралі, але мне яшчэ тады столькі не было. І мы з маім сябрам пісалі тагачаснаму ваеннаму міністру Мікалаю Булганіну, каб ён пісьмова дазволіў паступаць. Дазволіў. Я быў здаровы як бык, але вочы – прыроджаны астыгматызм.

**– Дык як тады тэатр?**

– Разумееце, я быў гатовы. Марыў быць лётчыкам і ў той жа час цікавіўся операй. Я ж у Маскве нарадзіўся, вырас, мяне вадзілі ў Вялікі тэатр. Многія лібрэта на памяць ведаў. Але гэта ў аснове не стаяла.

Шмат кніг чытаў. Бацька ў мяне быў вельмі арыгінальны. Першая кніга, якую пачуў, называлася "Дэкамерон" Бакачыо. Гэта ж такая вульгарна-сэксуальная кніга. Я нічога не разумеў! Затое добра памятаю, як ён мне чытаў. Дарэчы, тату майго завуць таксама Мікалай Мікалаевіч.

### "Мама вырашыла, што тата загіне, і дала мне яго імя"

**– Няўжо? Чаму ж у сям'і два Мікалаі Мікалаевічы?**

– Гісторыя ашаламляльная. Насамрэч, маё першае імя Яўген. Нарадзіўся, а тут – вайна. Тату забралі, і мая мама вырашыла, што яго абавязкова заб'юць. Прайшоў год, два, і мама дала мне яго імя – Мікалай. Аднак тата вярнуўся.

**– Раскажыце пра сваіх бацькоў.**

– Тата меў дзве ці нават тры вышэйшыя адукацыі. Спачатку скончыў рабочы факультэт тыпу вячэрняй школы, потым – фізіка-матэматычны факультэт МДУ. Ён быў бы вялікім матэматыкам, аднак армія перашкодзіла. Афіцэрам служыў. Мы пяць гадоў у Германіі правялі. Мяне потым адправілі ў Маскву. Бацька таксама рваўся, але яго не адпускалі, а потым ужо было позна.

Ён маю старэйшую дачку матэматыцы навучыў. Яна дагэтуль кажа: "Тат, я не разумею, як у яго гэта выйшла". Дачка нічога не цяміла ў матэматыцы, дык ён за месяц зрабіў так, што яна ведала прадмет і з поспехам паступіла ў Беларускі эканамічны ўніверсітэт.

У 87-м годзе тата памёр. І я ад гора зноў з'ехаў у Сібір – лячыцца. Прапрацаваў там два гады ды вярнуўся. Аднойчы сяджу дома, а мне – званок: "Ало, Мікалай Мікалаевіч? Я зараз да вас прыеду, можна?" Кажу: "Калі ласка, прыязджайце". А сам сабе думаю: хто гэта, голас незнаёмы.

Ведаеце, у нас галасы з татам вельмі падобныя. Ён за мяне нават некалі кіношныя грошы атрымліваў, бо дакументы ж аднолькавыя.

Дык вось, праходзіць нейкі час, званок у дзверы. Адчыняю, а там стаіць генерал: "Здрасьце! А Мікалай Мікалаевіч ёсць?" Ну я Мікалай Мікалаевіч, аднак разумею, што ён не да мяне. "Вы, мабыць, сын яго? – пытаецца. – А як мне Мікалая Мікалаевіча пабачыць?" Кажу: "На жаль, ніяк. Ён памёр". Маёй рэакцыі хапіла толькі на тое, каб яго злавіць, бо здаровы мужык пачаў страчваць прытомнасць.

Мама мая, Валерыя Мікалаеўна, была доктарам, неўрапатолагам, фізіятэрапеўтам. Шалапутная такая, бальшавічка. Тата наадварот – стоік. Ён маўчаў, ён усё разумеў. У мяне характар ад іх дваіх. Дарэчы, я вельмі рана неўзлюбіў усю тагачасную сістэму. Мы з мамай вельмі шмат спрачаліся, ночы напралёт размаўлялі…

### На яго пісалі даносы

**– Дык а што было пасля 81-га, калі вы сталі дыпламаваным рэжысёрам?**

– З'ехаў у Беларусь на



Масква, 1945 год. Ізмайлава. З маці Валерыяй Мікалаеўнай.



Масква, 1949 год. Ізмайлава. Разам з кузінай Гелай.



Масква, 1980 год.



Нарыльск, 1974 год. Падчас спектакля "Смак чарэшні".



Масква, 1970 год. На пробах фільма.

сваю другую радзіму. Яна вельмі дзіўна мяне прыняла. Абараняў дыплом у магілёўскім тэатры, ставіў спектакль "Гандлярка і паэт" па Івану Шамякіну. Не паспеў паставіць, як з-пад рукі сына галоўнага рэжысёра на мяне пачалі ісці даносы.

Плюнуў і паехаў у Гродна. Там упершыню ў свеце паставіў "Каліну чырвоную" Васіля Шукшына. Ну і пачаліся мае ўсялякія пакуты. Працаваць не давалі. За ўсё, што я зрабіў, дзякуй маім добрым сябрам, якіх у мяне мала. Да шчасця, таму што многа іх не бывае. Спачатку пісаў, потым пачаў здымаць кіно.

У 1992 годзе зняў фільм пра Марка Шагала. Мяне потым папрасілі даць дазвол, каб яго "пракацілі" па свеце. Ён нават у Аўстраліі быў.

Аднак я мала зрабіў. Мог бы болей…

**– Распавядзіце, што такое кіно, а што такое тэатр?**

– О, гэта розныя рэчы. І я тэатр больш люблю. Ну вось знялі цябе ў кіно: раз і назаўсёды. А тэатр дазваляе эксперыментаваць кожны дзень. Мне гавораць: "Як гэта? Кіно, камп'ютарная графіка…". А я кажу: "Пляваць мне на вашы графікі!" У тэатры больш магчымасцяў. Ён бязмежны.

**– Дык у Маладзечна як трапілі?**

– Летась дырэктар **Юры Крывенькі** запрасіў мяне ў Мінскі абласны драматычны тэатр.

**– Якія тэатральныя жанры вам больш па сэрцы?**

– Я люблю фантастычны рэалізм. Забаўлялкі не люблю, разумееце? Замах на геніяльнасць люблю. Калі ёсць замах, то дарую ўсё. А вось калі маркотнае, быццам прафесійнае "нешта"…

**– Ці ёсць у вас п'есы, пра якія вы смела можаце сказаць, што ўдаліся на 100 працэнтаў?**

– Разумееце, добра ці не, меркаваць не мне. А вось па ўнутраных адчуваннях: як працуецца, з асалодай, без асалоды, па прынудзілаўцы… Усялякае бывала. Яшчэ ў савецкія часы. Кажу: "Не хачу". А мне: "Стаў!"

Аднак трэба сябе паважаць. Часам і наступіш на горла ўласнай песні. Даводзілася і так працаваць. Але ў асноўным – не. Рабіў тое, што хацеў.

**– Што вы можаце назваць самым вялікім узлётам і самым вялікім падзеннем свайго жыцця?**

– Ведаеце, у мяне яшчэ не было ўзлётаў. Гэта так, планаванне над зямлёй. Але і падзенняў не было. Разумееце, тэатр – гэта пераадоленне. І ў першую чаргу сябе. Трэба ўсё з сябе пачынаць. Дзякуй, што жыццё мяне так пamяла, затое зрабіла тым, кім я ёсць.

**– Ці цяжка пісаць?**

– Я не лічу сябе пісьменнікам, хаця некалі вершы пісаў, ды і раман у мяне ёсць. А потым закінуў, бо зразумеў, што гэта не маё. Чаму пісаў? Ад адчаю. Гэта быў спосаб пераадолення. Жыў на восьмым паверсе і часам так хацелася... раз – і вылецець. Але садзіўся за машынку і пісаў. Не лічыўшы сябе паэтам. Сёння артыстаў віншую вершыкамі кароткімі: па чатыры, шэсць, восем радкоў.

**– Што пра публіку скажаце? Ці змянілася?**

– А ўсё вельмі проста. Мяне гэта злуе страшэнна! Тыя, у каго дзесьці чагосьці не хапае, кажуць: "Ну-с, так, да сучаснай публікі трэба апускацца". А я кажу: "Адкуль ты будзеш апускацца, калі ты яшчэ не падняўся!" Публіка больш разумная, чым мы думаем. Але разбэшчваць яе нельга.

Увогуле, галоўная бяда нашай краіны і Савецкага Саюза ў мінулым у тым, што на культуру, па вялікім рахунку, наплявалі. Калі здаваў палітэканомію сацыялізму, мне выкладчык, прозвішча нават памятаю, Ешын, паставіў кол! Зараз скажу, на чым мы счапіліся: на базісе і надбудове. Я кажу: "Разумееце, калі вы лічыце, што базіс – гэта станок, а чалавек, які яго зрабіў, – надбудова, то ідзіце вы да чорта!" І здаваў экзамен рэктару інстытута.

**– Як вы вызначаеце свой стыль?**

– Не ведаю, які ў мяне стыль. Замахнуцца, можа, не заўсёды перамагчы, але замахнуцца. Як кажуць: "Красці, дык мільён".

## "Жанчыну немагчыма зразумець"

**– А якую ролю ў вашым жыцці адыграла каханне?**

– Жанчын кахаў, у мяне пяць жонак было. Разумееце, без кахання нічога не можа быць. Жанчына для мяне ўвогуле неспасціжная субстанцыя. Яе немагчыма зразумець. Вядома, не прымітыўную, бо ёсць і такія. Гавораць як: у пачатку было слова. А адкуль яно ўзялося? Хто яго прамовіў ці напісаў? Не, спачатку была Любоў.

Меў рацыю Сакрат: "Я ведаю толькі адно, што нічога не ведаю. Але дай вам Бог ведаць столькі, колькі я забыў".

На жаль, сёння… Сёння мы такія ж неандэртальцы. Праўда, з камп'ютарамі.

**Настасся РОЎДА.**
**Фота забяспечана Мікалаем ДЗІНАВЫМ.**

СПАБОРНІЦТВЫ

# Аматары валейбола гулялі ў Мядзеле


Фота забяспечана Міхаілам ЧАРКАСЫМ.

Каманда Мядзельскага раёна – пераможца спаборніцтваў сярод мужчын.

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры 19 кастрычніка прайшлі папярэднія спаборніцтвы чэмпіянату Мінскай вобласці па валейболе сярод мужчынскіх і жаночых камандаў.**

Прымалі ў іх удзел каманды Мядзельскага, Маладзечанскага, Вілейскага і Лагойскага раёнаў.

Сярод мужчынскіх камандаў лепшымі былі гаспадары: мядзяльчане перамаглі ва ўсіх гульнях. На другім і трэцім месцах прадстаўнікі Вілейскага і Лагойскага раёнаў. У жанчын перамаглі маладзечанкі. На другім месцы прадстаўніцы Лагойскага раёна, а на трэцім – Мядзельскага, расказаў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Леанід Шыдлоўскі.**

Пераможцы трапілі ў фінальную частку чэмпіянату.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# Лік 3:2. "Маладзечна-2013" саступае камандзе "Віцебск-2"

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю, 20 кастрычніка, адбыўся чарговы матч другой лігі чэмпіянату краіны па футболе. Каманда з Маладзечна саступіла камандзе Віцебска, якая знаходзіцца на апошнім радку турнірнай табліцы.**

Першы гол забілі ў вароты маладзечанцам на 17-й хвіліне з пенальці. На гульні ў Віцебску не змаглі прысутнічаць гульцы Дзяніс Жыліч, Алег Галаўнёў, Аляксандр Працкевіч, Андрэй Шаблінскі. Магчыма, гэтыя абставіны таксама адыгралі сваю ролю ў няўпэўненай гульні каманды з Маладзечна.

Пачатак другога тайма адразу абазначыўся другім голам у варотах галкіпера з Маладзечна. Прысутныя на гульні адзначаюць, што другі тайм маладзечанцы поўнасцю саступілі віцябланам. На 23-й (68) хвіліне матча каманда "Віцебск-2" робіць лік матча катастрафічным – 3:0.

Але, трэба аддаць належнае камандзе "Маладзечна-2013", у гульцоў рукі не апусціліся, і на 26-й (71) хвіліне паўабаронца маладзечанскай каманды **Мікіта Стрyкаў** хоць мінімальна, але скарачае разрыў у ліку.

Да асноўнага часу суддзя дадае тры хвіліны. І на апошняй хвіліне матча **Юры Бугай** забівае яшчэ адзін гол у вароты віцебскага варатара. Фінальны лік матча становіцца 3:2.

У такой сітуацыі хочацца сказаць: "Эх, нам бы яшчэ трохі больш часу, абавязкова б адыграліся!" Але, на жаль, атрымалі тое, што атрымалі.

Каманда "Маладзечна-2013" губляе тры ачкі, застаецца на восьмым радку турнірнай табліцы. Наступная гульня адбудзецца 27 кастрычніка з Асіповічамі на гарадскім стадыёне ў Маладзечне.

Анансаваная раней на 23 кастычніка гульня з камандай Жлобіна адбудзецца ў сераду, 30 кастрычніка.

**Наталля ТУР.**

МАСАВЫ ФУТБОЛ

# Вызначылі лепшых у восеньскім турніры

**МАЛАДЗЕЧНА. Фізкультурна-спартыўны цэнтр дзяцей і моладзі на свае прызы правеў турнір сярод хлопцаў з усіх гарадскіх і некаторых раённых школ. Гульні адбываліся на працягу верасня і кастрычніка.**

У афіцыйным палажэнні аб правядзенні спаборніцтва яго мэтамі і задачамі названы папулярызацыя футбола сярод школьнікаў, прапаганда здаровага ладу жыцця, выяўленне пераможцаў і прызёраў.

Усе матчы праводзіліся па суботах. Гэта так званы шосты школьны дзень, спецыяльна прызначаны для заняткаў па інтарэсах. Заявіліся шаснаццаць камандаў, яны высветлілі мацнейшых па сістэме плэй-оф, пачынаючы з 1/8 фіналу. У заяўках камандаў былі 224 хлопцы, адначасова на полі знаходзіліся варатар і восем палявых гульцоў.

Вынікі матчаў першай стадыі турніру былі розныя, нават разгромныя. Некаторыя ж сведчаць аб роўнай барацьбе, напрыклад, не пашанцавала прадстаўнікам гімназіі №3 і гімназіі №10, якія саступілі з мінімальным лікам.

Наступная стадыя, чвэрцьфінал, прынесла такія вынікі. СШ №8 - ФСЦДзМ – 5:0, СШ №14 - СШ №9 – 3:1, СШ №12 - СШ №11 – 3:2, Чысцінская СШ - СШ №4 – 2:1. Заключныя сустрэчы адбыліся ў адзін дзень. Раніцай прайшлі паўфіналы. СШ №14 - СШ №12 – 3:0, СШ №8 - Чысцінская СШ – 4:3.

У сярэдзіне дня ў гульні за трэцяе месца СШ №12 перамагла Чысцінскую школу з лікам 1:0, а ў вырашальнай гульні турніру прадстаўнікі СШ №№14, 8 разышліся мірам з лікам 1:1, і толькі ў серыі пенальці ўдача ўсміхнулася камандзе СШ №14.

Граматы ад арганізатараў турніру атрымалі лепшыя гульцы. Гэта варатар **Раман Сушко** (СШ №14), абаронца **Вадзім Шушко** (Чысцінская СШ), нападаючы **Андрэй Бяззубін** (СШ №12), снайпер **Дзмітры Клачко** (СШ №8), самы ўніверсальны **Уладзіслаў Малькевіч** (СШ №8), самы тэхнічны **Андрэй Паліенка** (СШ №14).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

КОНКУРС

# Выйграй білет на матч "Смаргоні"!

**СМАРГОНЬ. У матчы 26-га тура ФК "Смаргонь" 26 кастрычніка згуляе з "Іслаччу". Угадайце лік матча і прыміце ўдзел у сумесным конкурсе "Рэгіянальнай газеты" і афіцыйнага сайта ФК "Смаргонь".**

Ваш адказ можаце дасласць да 12 гадзін 26 кастрычніка (субота) праз SMS на нумар **8(044) 566-26-99**. Укажыце ваша імя і нумар мабільнага ці адрас электроннай пошты.

Кожны, хто дашле правільны адказ, будзе ўзнагароджаны білетам на наступную дамашнюю гульню "Смаргоні".

А яшчэ прапануем адказаць на такое пытанне: хто з гульцоў "Смаргоні" сёлета з'яўляецца найлепшым бамбардзірам не толькі клуба, а і ўсяго чэмпіянату? Першы, хто дашле SMS з адказам на гэта пытанне, атрымае сувенір ад "Рэгіянальнай газеты".

**Аддзел інфармацыі.**


Фота Ірыны ЛЕЎЧАНКІ і Антона РОГАЧА.

"Смаргонь" падчас гульні з "Гранітам".

НАВІНЫ

## ФК "Смаргонь" падняўся на пятае месца

**СМАРГОНЬ.** У матчы 25-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе футбольны клуб "Смаргонь" гуляў 19 кастрычніка ў гасцях з "Полацкам".

Матч завяршыўся з лікам 2:1 на карысць смаргонцаў. Яны вызначыліся ў самым пачатку матча: на шостай хвіліне гол забіў **Шапятоўскі.** Неўзабаве гаспадары зраўнялі лік. Аднак на 76-й хвіліне **Попель** забіў пераможны гол, прыводзіць статыстыку матча сайт fc-smorgon.by.

Гэта перамога дазволіла "Смаргоні" падняцца з восьмага на пятае месца.

## Мядзельскія міліцыянеры – трэція ў вобласці па валейболе

**МЯДЗЕЛ.** 14 кастрычніка ў Мар'інай Горцы прайшоў фінал чэмпіянату па валейболе ўпраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама. Сярод шасці лепшых камандаў вобласці былі і мядзяльчане.

Яны выйшлі ў паўфінал, дзе ва ўпартай барацьбе 1:2 прайгралі камандзе Стаўбцоўскага РАУС. А потым у матчы за трэцяе месца выйгралі ў каманды са Слуцка, паведамілі намеснік начальніка Мядзельскага РАУС **Святаслаў Протас.**

## "Забудова-2007" прайграла з лікам 0:8

**МАЛАДЗЕЧНА.** У 24-м туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 19 кастрычніка "Забудова-2007" у гасцях гуляла з "Лівадзіяй-Юні" з Дзяржынска. Каманда з Чысці прапусціла ажно восем галоў. Першы гол гаспадары забілі на 13-й хвіліне, а завяршылі разгром на 87-й хвіліне.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" у гэтыя выхадныя не гуляла, таму яе і дагнала каманда "Нёман-агра", адсунуўшы маладзечанцаў на чацвертае месца.

"Забудова-2007" па-ранейшаму ідзе дзясятай.

## "Вілія": два паражэнні за два дні

**ВІЛЕЙКА.** "Вілія" за гэтыя выхадныя згуляла два матчы чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе. І ў абедзвюх гульнях прайграла. Дома 19 кастрычніка ў прапушчаным матчы саступіла камандзе "Жодзіна-2007" з лікам 0:3.

А назаўтра ў Слуцку віляйчане саступілі мясцоваму "Аграсэрвісу" 1:5. Адзіны гол забіў **Сяліцкі,** паведамляе сайт Мінскай абласной федэрацыі футбола.

"Вілія" займае ў турнірнай табліцы апошняе месца, адрыў ад перадапошняга павялічыўся да шасці ачкоў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СУВЯЗЬ

# Ці знікнуць тэлефоны-аўтаматы

**МАЛАДЗЕЧНА. Іх чырвоныя будкі – адзін з сімвалаў Лондана, у адной з іх жыў Чабурашка, калісьці да іх стаялі доўгія чэргі. Тэлефоны-аўтаматы (або правільна таксафоны) сёння – гэта сучасная прыкмета гарадскога жыцця ці перажытак мінуўшчыны?**

У Маладзечне сёння працуе каля 20 таксафонаў і яшчэ каля 30 апаратаў – у раёне.

– Кожны дзень з аўтаматаў нам паступае аўтаматычны дазвон. Так мы правяраем, ці працуюць яны. Хоць тэлефонаў засталося зусім нямнога, на жаль, шкодзіць іх меней не сталі. Перыядычна даводзіцца прымацоўваць адарваныя трубкі, чысціць размаляваныя казыркі. А бывае, што і ўвогуле апараты крадуць, – распавядае **Ірына Гайчук**, спецыяліст па маркетынгу Маладзечанскага вузла сувязі.

Аднойчы, седзячы на лаўцы якраз насупраць таксафона, я задалася пытаннем: ці падыдзе хто патэлефанаваць з тэлефона-аўтамата. Мой эксперымент доўжыўся дзесьці гадзіну, але ніводны чалавек за гэты час не скарыстаўся такім сродкам сувязі.

А між тым, патэлефанаваць, напрыклад, у Мінск з таксафона будзе каштаваць 60 рублёў за хвіліну размовы. А са звыклых нам мабільных тэлефонаў размова з сябрам з Мінска будзе каштаваць ад 300 да 700 рублёў за хвіліну, у залежнасці ад вашага тарыфнага плана. Адзінае, трэба набыць тэлефонную картку. Каштуе яна 7 800 рублёў і разлічаная на 60 тарыфных адзінак.

**– Ці карыстаюцца карткі да таксафонаў попытам?**

– Дзень на дзень не прыходзіцца. Бывае, што за дзень не прададзім ніводнай, а вось на гэтым тыдні быў дзень, калі ў нас набылі 18 картак. Адзінае, што магу сказаць дакладна, што калі раптам знікаюць карткі з продажу, то гэта адчуваецца.

Ёсць у тэлефонаў-аўтаматаў яшчэ адна "фішка". Распавядае Ірына Гайчук:

– Паслуга называецца "зручны званок". Гэта значыць, што з любога тэлефона-аўтамата вы можаце звязацца з апаратарам, назваць яму нумар абанента, якому вы тэлефануеце, і калі ваш суразмоўца пацвердзіць аплату за тэлефонны званок, вы зможаце гаварыць за яго рахунак. Вельмі зручна, калі пад рукой не знаходзіцца тэлефона або ў мабільніку сядзе батарэйка. Нумар для сувязі з аператарам указаны на кожным таксафоне. А пажарных, міліцыю, "хуткую дапамогу" можна выклікаць, набраўшы адпаведны нумар: 101, 102, 103. Не трэба ні карткі, ні нейкіх спецыяльных нумароў.

**– Ці плануецца прыбраць тэлефоны-аўтаматы з вуліц горада?**

– Магчыма, хутка іх застанецца зусім мала, бо ўсё менш людзей карыстаюцца таксафонамі. Але гэта не азначае, што яны знікнуць увогуле. У горадзе павінны быць таксафоны. Да таго ж, ёсць месцы, дзе тэлефоны-аўтаматы проста неабходныя. Гэта бальніцы, санаторыі, воінскія часці, пункты прыдарожнага сэрвісу, дзіцячыя аздараўленчыя лагеры.

Тэлефоны-аўтаматы перажываюць не лепшыя часы. Магчыма, яны стануць моднымі public-арт-аб'ектамі, як у многіх гарадах свету. А можа здарыцца, што сінія капялюшыкі таксафонаў, як і аўтаматы для газіраванай вады, кефір з зялёнымі накрыўкамі, малако ў трохвугольных пакетах, можна будзе пабачыць толькі на старых чорна-белых здымках.

**Наталля ТУР.**




Колькасць таксафонаў у рэгіёне.

■ ГУЛЯЙ З "РГ"

## Працягвайце выйграваць

**РЭГІЁН. Конкурс, які мы пачалі ў мінулым нумары, меў добры поспех.**

У выніку нашы падарункі атрымалі шасцёра чытачоў.

Мы вырашылі прадоўжыць гульню на разыгрыванне білетаў у Мінскі абласны драматычны тэатр і дадатковых падарункаў. Аднак цяпер ужо ўзнагароджаны будзе той, хто першы найбольш поўна і хутка адкажа на пытанне.

Пытанне гэтага нумара: назавіце спектаклі, якія паспеў паказаць у сёлетнім, 23-м, тэатральным сезоне Мінскі абласны драматычны тэатр.

Дасылайце адказы на электронную пошту regionnews@rh.by. Поспехаў!

**Аддзел інфармацыі.**

■ СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 4 | | | 9 | | | 1 | 5 |
| 9 | | | | 6 | 7 | | | |
| | | 3 | | | | | | 7 |
| 5 | | 6 | 8 | 3 | | | | |
| 3 | | | | | | | | 8 |
| | | | | 7 | 4 | 6 | | 1 |
| 8 | | | | | | 3 | | |
| | | | 2 | 1 | | | | 4 |
| 4 | 2 | | | 8 | | | 9 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



■ РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйныя прыгоды "**Джасцін і рыцары доблесці**", 3D (Іспанія, 2013, да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26-27 кастрычніка – 14.00
28-29 кастрычніка – 16.00
30-31 кастрычніка – 14.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Ваенная драма "**Сталінград**", 3D (Расія, 2013, да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
25 кастрычніка – 16.00
26, 27 кастрычніка – 16.00, 18.30
28 кастрычніка – 18.30
29 кастрычніка – 21.00
30, 31 кастрычніка – 16.30, 21.00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

Камедыя "**Горка!**" (Расія, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
25 кастрычніка – 18.30, 21.00
26-28 кастрычніка – 21.00
29-31 кастрычніка – 19.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама "**Рэнуар. Апошняе каханне**" (Францыя)
25-27 кастрычніка – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыйнае фэнтэзі "**Монстры на востраве**" (Японія, Канада)
26, 27 кастрычніка – 15.00, 17.00
28-31 кастрычніка – 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Меладрама "**Трэзар**" (Францыя)
29 кастрычніка – 17.30, 19.30
30 кастрычніка – 17.30, 21.30
31 кастрычніка – 17.30, 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Фантастыка, драма "**4:44. Апошні дзень на Зямлі**" (ЗША, Швейцарыя)
25 кастрычніка – 17.30, 19.30
26, 27 кастрычніка – 19.30
28, 29 кастрычніка – 21.30
30 кастрычніка – 19.30
31 кастрычніка – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на кастрычнік

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), Сцяпан Лабазёраў
25 пятніца 19.00

"**Месье з рагамі, мадам з вусамі**" (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях) Марсэль Берк'е-Мерыньe, Анатоль Курбскі
26 субота 17.00

"**Банкет**" (сентыментальная камедыя), Ніл Сайман
27 нядзеля 17.00

"**Вечар**" (лірычная меладрама), Аляксей Дудараў
29 аўторак 19.00

ПРЭМ'ЕРА. "**Карона з кахання**" (лірычная драма ў 2-х дзеях, прысвечаная жыццю і творчасці Янкі Купалы), Анатоль Дзялендзік
31 чацвер 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: modt@tyt.by.

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Тыграня Петрык** " (музычная казка). Х.Януiшэўская.
27 кастрычніка – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

■ ГАРАСКОП (25-31 КАСТРЫЧНІКА)


**Авен.** Часцей стварайце ў сваім уяўленні карціны таго, чаго вы хочаце дасягнуць. Напаўняйце іх энергіяй любові, свята, і вы ўбачыце, як вашы мары становяцца рэальнасцю.


**Цялец.** Вы трацfolice грошы хутчэй, чым яны паступаюць. Надта вялікія расходы могуць стаць прычынай сямейных рознагалоссяў.


**Блізняты.** Час не падыходзіць для авантур, але рашучыя дзеянні могуць прынесці вынікі, на якія вы і не разлічвалі.


**Рак.** Дзейнічайце рашуча і смела і ведайце, што зоркі на вашым баку. Галоўнае, не давайце імгалётным эмацыйным успёскам ўлады над сабой.


**Леў.** Пастарайцеся рабіць як мага больш добрых спраў. Бо калі ў перыяд свайго поспеху і шчасця вы нікога не забылі і не пакрыўдзілі, то шчасця вам прыбавіцца яшчэ больш.


**Дзева.** Гэта перыяд моцных эмоцый, адчуванняў, таму ўцікайце пачуцці. Атрымлівайце асалоду ад залатой восені, размаўляйце з дрэвамі, рэкамі, камянямі, і вы адчуеце, як энергія любові будзе напаўняць вас.


**Шалі.** Вы занадта рашучыя, патрабавальныя і катэгарычныя, а гэта для вас перашкода на шляху дасягнення поспеху.


**Скарпіён.** Самае лепшае, што вы можаце зрабіць – гэта наладзіць адносіны з любімымі людзьмі. Яшчэ добра было б заняцца абладкаваннем жылля – зрабіць рамонт ці проста заняцца ўпрыгожваннем дома.


**Стралец.** Паклапаціцеся пра здароўе сваіх вачэй. Вы падвяргаеце іх павышаным нагрузкам, а трэба ўжо даць адпачынак. Менш сядзіце за тэлевізарам ці камп'ютарам, вечарам прыкладзіце да вокаў "маску" з агурка, бульбы ці спітай заваркі.


**Казярог.** Вы паклапоціцеся аб тым, каб палепшыць жыццё сваіх блізкіх, зоймецеся вырашэннем бытавых пытанняў. Магчымы рамонт, набыццё рэчаў, якія ўпрыгожваюць быт.


**Вадалей.** Ваша самаадчуванне будзе такім, якія эмоцыі вы будзеце адчуваць. Кіраваць настроем складана, але можна, калі памятаць, што ад гэтага залежыць ваша здароўе. Шукайце прычыны для ўсмешкі – і яны абавязкова знойдуцца.


**Рыбы.** Наступае перыяд поўнага бязмежнага шчасця.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


ISSN 1991-7155


Камент-эксперт




Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**


# Рэгіянальная газета


## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 / +13 | | +11 / +10 | | +12 / +13 | | +12 / +13 | |
| | 745 | → 5 | 744 | ↑ 5 | 740 | ↗ 3 | 732 | ↗ 7 |
| Вільня | +10 / +9 | | +6 / +11 | | +13 / +15 | | +12 / +13 | |
| | 748 | → 4 | 750 | ↑ 6 | 748 | ↗ 4 | 739 | → 8 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.03
Захад 17.49
Даўжыня дня 9.46

Усход 23.39
Захад 14.19
Квадра 4




## ПРЫКМЕТЫ

- Дзяды, Асяніны – памінальны абрад, рытуальная вячэра ў памяць памерлых родзічаў, які паходзіць ад славянскага язычніцкага звычаю трызны – памінальнай трапезы.
- Позні асенні гром – позні снег.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Ці ведалі вы, што традыцыйная стравы Мядзельшчыны адрозніваюцца ад традыцыйных беларускіх? Чытайце пра гэта ў наступным нумары "РГ".**



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАВЕЧЧЫНЫ



Фота Юрыя ГОРНДА.

**Стварыце настрой сабе самі.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ І МЯДЗЕЛЕ

# Ці патрэбныя ў горадзе таксафоны?



**Вольга Хоміч, рэдактар сайта:**

– Апошні раз карысталася тэлефонам-аўтаматам яшчэ ў школе, але гэта не значыць, што з вуліц іх трэба прыбраць. Раптам давядзецца міліцыю ці "хуткую" выклікаць, а мабільніка пад рукамі няма. Вось толькі таксафоны добра было б шумаізаляцыяй абсталяваць, а то калі і захочаш пагутарыць з кім, то наўрад ці пачуеш.



**Марыя Кулік, школьніца:**

– Таксафоны? Гэта такія сіненькія тэлефончыкі? Ніколі імі не карысталася. І не ведаю, для чаго яны патрэбныя!



**Ніна Чарнакальская, перакладчыца:**

– Сама я таксафонамі ніколі не карысталася. Але перыядычна бачу, як людзі ў горадзе размаўляюць па тэлефонах-аўтаматах. Значыць, нехта мае ў іх патрэбу.



**Андрэй Малахаў, псіхолаг:**

– Мне здаецца, што таксафоны даўно пара замяніць на скайп-будкі, як гэта зрабілі ў Еўропе. Трэба ісці ў нагу з часам.



**Анастасія Шыраева, супрацоўніца бібліятэкі, Мядзел:**

– Мяркую, што таксафоны ў горадзе патрэбныя. Розныя сітуацыя могуць быць: скажам, мабільны тэлефон разрадзіцца. І ў гэты момант выручыць таксафон.



**Дзіна Гецьман, банкаўскі работнік, Мядзел:**

– Лічу, што яны цяпер непатрэбныя. Таму што сёння ва ўсіх мабільныя тэлефоны ёсць – рэдка ў каго іх няма.



**Анастасія Чараповіч, бібліятэкарка, Мядзел:**

– Я таксафонамі не карыстаюся, але лічу, што яны патрэбныя. Бывае так, што мабільнага няма пад рукой – тады таксафон выручыць.

**Падрыхтавалі Наталля ТУР, Алесь ВЫСОЦКІ.**


Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 43 (965) 25.10.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 978. Падпісана ў друк у 10.00 24.10.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.